



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

14 сакавіка 2014 года **11 (985)**









## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Адрадзілі пончыкі

**ВАЛОЖЫН.** У Івянецкім музеі традыцыйнай культуры распрацавалі пазнавальную праграму "Таямніцы старасвецкага мястэчка Івянец". Падчас праграмы госці пазнаёмяцца з традыцыйнымі рамёствамі Івянца, наведаюць музей, возьмуць удзел у народных гульнях і абрадах. Як распавяла дырэктар музея **Валянціна Адамовіч**, у музеі адрадзілі традыцыйныя івянецкія пончыкі. Так што пасля насычанай праграмы, якую прапануюць супрацоўнікі музея разам з Івянецкім Домам культуры, можна будзе падсілкавацца, пачаставацца.

### Праваліўся пад лёд

**ВІЛЕЙКА. МАЛАДЗЕЧНА.** 8 сакавіка маладзечанец рыбачыў на Вілейскім вадасховішчы. Каля 17 гадзін вечара дзяжурны паведаміў пра тое, што 44-гадовы мужчына патануў непадалёк ад помпавай станцыі №1. Цяпер вясна, значыць, трэба быць асабліва асцярожнымі на вадзе, адзначае намеснік начальніка РАУС начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**.

### Гарыць трава: 20 выпадкаў

**ВІЛЕЙКА.** У сераду, 12 сакавіка, тушылі загаранне смецця па вуліцы Яблыневай. Ад 1 да 12 сакавіка на Вілейшчыне выратавальнікі 20 разоў выязджалі на тушэнне загаранняў, якія ўзніклі ад спальвання смецця і травы. Такія выпадкі здараюцца не толькі ў вёсках, а і ў горадзе, паведаміў інспектар Дзяржпажнагляду **Аляксандр Казакевіч**. Магчыма, выпальванне сухой расліннасці прывяло да пажару ў вёсцы Беразова 10 сакавіка – гэта адна з мяркуемых прычын здарэння. Там згарэў хлеў, пашкоджаны нежылы дом, а ў радыусе 20 метраў выгарала трава.

Аддзел інфармацыі.





# Ці трэба "зебра" каля музкаледжа?

**МАЛАДЗЕЧНА. Навучэнцам музычнага каледжа і жыхарам яго інтэрната даводзіцца ўвесь час азіраццa, каб перайсці дарогу ў краму насупраць. Верагоднасць трапіць у пратакол супрацоўнікаў ДАІ вельмі высокая.**

Для таго, каб дайсці да "студэнцкай" крамы, хопіць і паўхвіліны. Яшчэ хвілін пяць давядзецца пастаяць у чарзе. У выніку такая вылазка за хлебам ці шакаладным батончыкам займае хвілін сем. Гэтага часу якраз дастаткова, каб навучэнцы маглі падсілкавацца падчас перапынку.

Аднак не ўсё так проста – няма пешаходнага перахода.

### Складалі пратаколы адразу на пяцярых

Атрымаць ад міліцыянера "прапанову" скласці пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні за пераход дарогі ў нявызначаным месцы – ужо не навіна.

– Быў і ў мяне такі выпадак, – прыгадвае выпускніца музкаледжа **Марыя Мядзюха**. – Год ці два таму я з чатырма сябрамі ішла ў краму. Праўда, так і не дайшла. Былі вымушаны вярнуцца ў інтэрнат за пашпартамі для пратакола.

У выніку двое заплацілі штраф па адной базавай кожны, а траіх праз некалькі тыдняў выклікалі ў камісію па справах непаўналетніх.

### Дзе можна перайсці дарогу

Непадалёк ад інтэрната два пешаходныя пераходы. Абодва прыкладна ў метрах 70-і. Адзін на скрыжаванні Вялікага Гасцінца і Тамашоўскай, дзе ўсталяваны святлафор. Другі – побач з медыцынскім каледжам.

– Каб паспець схадзіць за булачкай у дзесяціхвілінны перапынак, я не пабягу на пешаходны пераход, – распавядае **Наталля Севярын**. – Гэта зойме не толькі ўсе дзесяць хвілін, а значна больш. Асабліва калі ўлічыць, што на святлафоры даводзіцца пастаяць.



Фота Алеся ДЗЯМІДЧЫКА.

Навучэнцы музкаледжа Віктар Шыманскі і Наталля Завадская ведаюць правілы дарожнага руху, але усё ж іх парушаюць, каб паспець на заняткі.

**Штраф за пераход у неналежным месцы – ад 1 да 3 базавых велічынь (ад 130 да 390 тысяч рублёў). Пра гэта паведаміў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі Сяргей Бартош.**

Выхавальніца інтэрната музкаледжа **Міра Януць** увесь час назірае, як навучэнцы пераходзяць вуліцу не там, дзе трэба:

– Усе разумеюць, што трэба хадзіць па пешаходных пераходах, але на супрацьлеглы бок інтэрнатаўцы крочаць наўпрост па праезнай частцы. Ужо не гаворачы пра нашу краму насупраць і шапіка побач з ім. Пешаходны пераход тут вельмі патрэбны, але, на жаль, яго не робяць. Дарэчы, да крамы насупраць інтэрната Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа навучэнцы смела крочаць па зебры. Часта бачу, як яны, нават не апрануўшыся, бягуць у краму. Увогуле шкада, калі дзеці плацяць штраф. Колькі ў іх той стыпендыі…

### "За ляноту няхай плацяць"

Сітуацыю пракаментаваў загадчык юрыдычнага сектара "Камунальніка" **Дзяніс Лапата**:

– Калі жыхары лічаць, што ў пэўным месцы неабходны пешаходны пераход, яны могуць напісаць адпаведную заяву ў райвыканкам. Пажадана, каб заява была калектыўная – тады відаць, што гэта не аднаму чалавеку проста лянота ісці да перахода. Заяву разглядае спецыяльная камісія, у якую ўваходзяць супрацоўнікі ДАІ. Яны правяраюць, наколькі мэтазгодна размяшчаць пераход. Я сумняваюся ў мэтазгоднасці ў гэтым канкрэтным выпадку: у некалькіх метрах перакрыжаванне з пераходамі, і яшчэ адзін пераход каля дзіцячых садкоў. Кожны хацеў бы суцэльны пешаходны пераход ад дома да работы, і каб яму ўсе машыны саступалі. У інтэрнаце жывуць маладыя людзі, якім няцяжка абысці. А калі лянота – няхай плацяць штрафы.

**Алесь ДЗЯМІДЧЫК, школа маладых журналістаў пры рэдакцыі "РГ".**

ВЫСТАВЫ

# Былы доктар стварыў касцёлы і капліцы з каляровага шкла

**ВІЛЕЙКА. Выявы касцёлаў і капліц, помнікаў паўстанцам і вайскоўцам – усё гэта можна пабачыць у выставачнай зале імя Сілівановіча. Прытым, у незвычайнай тэхніцы: мазаіцы з каляровага шкла.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Творы Аляксандра Зубрыцкага.

У краязнаўчым музеі праходзіць выстава карцін **Аляксандра Зубрыцкага**. На ёй прадстаўлена 28 твораў, у якіх мастак увекавечыў гістарычныя мясціны Беларусі. Некаторыя з іх цяпер можам пабачыць толькі на фатаграфіях ды на гэтых карцінах.

Аляксандр Зубрыцкі – мастак-аматар. Па адукацыі ён медык, кандыдат медыцынскіх навук, зараз на пенсіі, жыве ў Мінску. Але і з нашым рэгіёнам лёс яго зводзіў: пасля заканчэння медінстытута, з 1956 па 1959 год, працаваў афтальмолагам у Вілейскай абласной бальніцы.

Недарэмна на выставе пяць прац звязаныя з Вілейшчынай. Гэта выявы вілейскага касцёла, могілак вайскоўцаў, палеглых у савецка-польскай вайне, помнікаў паўстанцам 1863 года (аднаго ў Ілы, і двух – у Куранцы).

– І якія найбольш яркія ўспаміны засталіся ў вас пра Вілейку? – пытаю ў мастака.

– Запомнілася, як уначы на драўляных лодках рыбакі з факеламі білі вялікую рыбу восцямі. Надта ж чыстая Вілія тады была.

Прыгадвае творца, што падчас працы ў Вілейцы яму даводзілася і ў суседнія раёны ездзіць. І там рабіў фотаздымкі гістарычных мясцін.

Таму на выставе не толькі Вілейшчына, а многія мясціны нашага рэгіёна прадстаўлены: можна палюбавацца на касцёлы ў Засвіры і Гервятах, Солах і Івянцы...

Падчас паездак Аляксандру Зубрыцкаму і прыйшла думка, каб неяк захаваць памяць пра разбураныя капліцы, запушчаныя могілкі.

– Калі я ездзіў па вёсках, заходзіў у хаты. На сценах бачыў шмат фатаграфій людзей: і ў форме царскай арміі з Першай сусветнай вайны, і ў форме польскай арміі. Паказвалі вяскоўцы і могілкі. Пабачыў, што некаторыя з іх знаходзіліся ў запушчаным стане, і захацелася гэта неяк увекавечыць.

Прайшоў час – і гэтыя ўспаміны, зробленыя падчас візітаў фатаграфіі, ўвасобіліся ў карціны.

А чаму вырашыў ствараць іх з каляровага шкла? Прыгадвае, як убачыў у старой капліцы разбітыя вітражы: кавалачкі шкла па мармуровай падлозе іскрыліся бы брыльянты. Гэта было так прыгожа!

Займаецца Аляксандр Зубрыцкі стварэннем такіх карцін каля трыццаці год. За гэты час стаў аўтарам каля 80 прац на гістарычную тэматыку, ёсць яшчэ і на іншыя.

**– Колькі часу ідзе на такую карціну?**

– У сярэднім два-два з паловай месяцы. Але, можа, і паўгода пайсці. Лічы, увесь светлавы дзень робіш.

**– Як жа з'явілася ідэя правесці выставу ў Вілейцы?**

– Неяк наведваў тут выставу, прысвечаную вайне 1812 года. Разгаварыўся з супрацоўнікамі музея, людзьмі, якія гэту выставу рабілі. Вырашыў зрабіць сваю: усё ж мой горад, працаваў тут. І калі людзям спадабаецца, то, можа, заахвочуся яшчэ ў іншых мясцінах карціны паказаць.

Раней выставы карцін мастака праходзілі ў Варшаве, Мінску, Рагачове. А цяпер свае ўражанні пра іх могуць выказаць і віляйчане.

– Гэта выстава найперш падабаецца людзям, якія цікавяцца гісторыяй, – расказала навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. – Бо тут пераважна прадстаўленыя храмы, помнікі. Але і астатнім цікава: як гэта можна з дапамогай шкла паказаць і колер, і ўсе адценні. Нават калі па нашым касцёле паглядзець – ідэнтычна ж выглядае. Увогуле, Аляксандр Зубрыцкі стварыў сваю тэхналогію ў такім старым накірунку мастацтва, як мазаіка. Калі наведнікі ўглядаюцца ў пераліўы, то ствараецца ўражанне быццам гэта проста россып шкла, а клею не бачна.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Станіслаў Ляшковіч (1932-2014)



З Расіі прыйшла сумная вестка. 21 студзеня трагічна загінуў Станіслаў Ляшковіч, наш зямляк, аўтар "Рэгіянальнай газеты", заслужаны лётчык-выпрабавальнік СССР.

Станіслаў Ляшковіч нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Леснікі былога Плешчаніцкага раёна пры самай дзяржаўнай мяжы паміж СССР і даваеннай Польшчай. У 1948 годзе разам з сям'ёй пераязджае ў Абадоўцы, бліжэй да сваякоў. У 1951 годзе пасля заканчэння сярэдняй школы ў Ілы (быў аднакласнікам будучага настаўніка і паэта Івана Лашуткі) паступае ў лётнае вучылішча ў Армавіры.

У 1962-1964 гадах – перагоншчык самалётаў з Далёкага Усходу ў заходнюю частку СССР. Ад 1964 да 1987 года – лётчык-выпрабавальнік. Заслужаны лётчык-выпрабавальнік СССР. Пасля выхаду на пенсію займаўся фермерствам. У 2000 годзе пераехаў у Расію, у горад Ніжні Ноўгарад, дзе жыў да самай смерці. Пакінуў жонку, двух сыноў, унука і ўнучку.

Станіслаў Канстанцінавіч заўсёды меў яркую грамадскую пазіцыю. Ці тычылася гэта бяздумнай ліквідацыі поймы Віліі ля Вілейкі, якую спынілі дзякуючы ўмяшальніцтву Ляшковіча, ці барацьбе за экалагічнае гаспадаранне ў Расіі і Беларусі – Ляшковіч змагаўся за ўвядзенне новых бясшкодных для чалавека і наваколля тэхналогій у сельскай гаспадарцы, ці аднаўленне памяці бязвінна рэпрэсаваных сталінскім рэжымам.

Апошні час ён жыў ідэяй аднаўлення помніка паўстанцам 1863 года ў Ілы. Хадзіў па кабінетах чыноўнікаў у Вілейцы і Мінску. На аднаўленне гэтага помніка, знішчанага ў 60-я гады мінулага стагоддзя савецкай уладай, аддаваў свае зберажэнні.

Станіслаў Ляшковіч прыязджаў на сваю радзіму штогод. Бывала, па некалькі разоў. Больш гэтага, на вялікі жаль, ужо не будзе. Раніцай 21 студзеня, ідучы ў свой гараж, ён трапіў пад састаў электрычкі.

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Станілава Ляшковіча, яго знаёмым і сябрам.**

УВАГА, ВЫШУК

# Зніклі навучэнка і пенсіянер

**МАЛАДЗЕЧНА. Двое чалавек зніклі ў пачатку сакавіка.**

Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае зніклую **Юлію Яўгенаўну Сыракваш**. Яна нарадзілася 19 красавіка 1997 года. Жыве ў Маладзечне па Вялікім Гасцінцы. Навучэнка 1 курса Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа.



Юлія Сыракваш.



Ігар Сакалоў.

6 сакавіка яна пайшла з інтэрната і дагэтуль невядома яе месца знаходжання.

Прыкметы зніклай. На выгляд 16-17 год, рост каля 155 см. Хударлявая, бледная, шэрыя вочы, прамыя цёмныя валасы.

Была апранутая ў бэжавае паліто да калена, карычневыя штаны, чаравікі на шнуроўцы ці красоўкі.

На верхніх вуснах ёсць шрам.

Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае зніклага **Ігара Васільевіча Сакалова**. Ён нарадзіўся 3 студзеня 1946 года. Жыве ў Маладзечне па вуліцы Марата Казея.

5 сакавіка ён пайшоў з дому і дагэтуль не вярнуўся.

Прыкметы зніклага. На выгляд 68-70 год, рост каля 174 см. Хударлявы, смуглы, карыя вочы. Прамыя сівыя валасы, ёсць лобная лысіна. Глухі голас, невыразнае маўленне.

На левым плячы ёсць татуіроўка, напісанае слова "Ліда". Няма вялікага пальца на левай назе. Кепска арыентуецца ў навакольным асяроддзі. Праз псіхічнае захворванне не ўсведамляе, што робіць.

Быў апрануты ў шэрабелую вязаную шапку, дублёнку балотнага колеру, чорныя штаны, сіні світар, сінюю майку. Абуты ў чорныя туфлі з белай падэшвай.

Калі вы штосьці ведаеце пра месца знаходжання гэтых грамадзян, пераканаўча просім паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах 8(0176)74-96-83, 77-03-12, 77-16-56 ці па тэлефоне 102.

**Маладзечанскі райаддзел міліцыі.**

БРАКАНЬЕРСТВА

# Рыбалкай нанеслі шкоду на 650 тысяч рублёў

**МЯДЗЕЛ. Работнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету 24 лютага на возеры Нарач затрымалі жыхара Мядзельскага раёна.**

Ён з выкарыстаннем забароненай прылады рыбалоўства – рыбалоўнай сеткі з лёскі – незаконна здабыў чатырох шчупакоў і пяць акунёў. Тым самым прычыніў шкоду навакольнаму асяроддзю на суму 650 тысяч рублёў.

У далейшым устанавілі, што ў лютым 2014 года суд Мядзельскага раёна прыцягваў ужо гэтага грамадзяніна да адміністрацыйнай адказнасці за аналагічнае парушэнне. У сувязі з гэтым Мядзельскім райаддзелам Следчага камітэта ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле 281 ч. 1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь .

За злачынства па дадзенам артыкуле прадугледжанае пакаранне ў выглядзе штрафу або папраўчыя работы на тэрмін да двух год, або арышт на тэрмін да шасці месяцаў.

**Уладзімір ХІЛА, старшы дзяржінспектар Мядзельскай міжрайінспекцыі.**

ХАРЧАВАННЕ

# Бярозавы сок:

## здабываем правільна і ўжываем з карысцю



Фота photo.bymedia.net

Работнікі Маладзечанскага лягаса нарыхтоўваюць бярозавік. Здымак зроблены 3 красавіка 2009 года.

**МАЛАДЗЕЧНА. З надыходам вясны ў лясы пацягнуліся з бідонамі і каністрамі зборшчыкі соку. Пра тое, як не нашкодзіць ні прыродзе, ні сабе, і пойдзе гаворка.**

Адны сцвярджаюць, што ён нічым не адрозніваецца ад звычайнай вады, іншыя не могуць дачакацца яго з'яўлення, каб папоўніць свой арганізм карыснымі рэчывамі, якіх так не хапае пасля зімы.

### Кляновы сок не здабываем, мы ж не ў Канадзе

У Маладзечанскім лягасе расказалі пра тое, што прамысловымі тэмпамі сок яшчэ нарыхтоўваць не пачалі. Пакуль не дазваляюць умовы надвор'я, але спецыялісты лясніцтва штодзень сочаць за дрэвамі.

Спецыяліст пабочнага карыстання Маладзечанскага лясніцтва нагадала ўсім, што за самавольную здабычу соку, без дазволу лясніцтва, прадугледжаныя вялікія штрафы.

– Як толькі сок пойдзе ў дастатковай колькасці, мы пачнём рэалізоўваць яго насельніцтву. Кошт аднаго літра складзе прыкладна 1500 рублёў. Набыць яго можна будзе ў Маладзечанскім лягасе, што знаходзіцца па *вуліцы Віленскай, 125*, – патлумачылі ў лясніцтве.

**Не лішнім будзе нагадаць агульныя правілы нарыхтоўкі соку.**

1. Каб не загубіць дрэва, не спускайце з яго больш за тры літры соку.
2. Нельга спускаць сок з маладых дрэўцаў.
3. Збіраць сок пажадана толькі ў лесе або як мага далей ад дарогі, таму што дрэва здольнае ўбіраць у сябе шкодныя рэчывы і выхлапныя газы.
4. Пасля збору соку не забудзьцеся шчыльна замазаць адтуліну або надрэз пластылінам, воскам, коркам, гаспадарчым мылам ці забіць яго мохам.

– А тое, што некаторыя крыніцы сцвярджаюць, быццам кляновы сок больш салодкі за бярозавы і з'яўляецца ягоў паўнапраўным аналагам, мы пацвердзіць інфармацыю не можам. У нашых лясах кляновы сок не здабываецца, мы ж не ў Канадзе.

– Ад гэтага года штрафы за парушэнне правілаў збору бярозавага соку павялічыліся ў разы.

**Калі ў мінулым годзе штрафы вагаліся ад 4 да 35 базавых велічынь, то сёлета самы сціплы штраф абыдзецца ў 20 базавых велічынь.**

–Для індывідуальных прадпрымальнікаў штрафы складуць 100 базавых велічынь, для юрыдычных асоб – да 500 базавых велічынь, – паведаміў "Рэгіянальнай газеце" вядучы спецыяліст Маладзечанскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Іван Мялюк**.

### Захаваць да наступнай вясны

Свежы бярозавы сок хутка псуецца, таму яго трэба трымаць толькі ў халодным месцы, прычым не больш за тры дні. Калі вы хочаце захаваць яго на больш працяглы тэрмін, спатрэбіцца кансервацыя. Для гэтага дастаткова нагрэць сок да 80 градусаў, разліць у стэрылізаваныя слоікі ці бутэлькі і герметычна закрыць. Яшчэ адзін самы просты і дзейсны спосаб захоўвання соку – замарозка. Усе каштоўныя рэчывы пры гэтым застаюцца практычна ў нязменным выглядзе.

### Бярозавы сок можна не толькі піць

Бярозавы сок даўно і надзейна прапісаўся ў касметалогіі. Ён дабратворна ўздзейнічае на скуру і валасы, ад чаго тыя набываюць здаровы знешні выгляд і пачынаюць хутчэй расці. Калі рабіць маскі на твар з даданнем бярозавага соку, то актывізуюцца працэсы дзялення клетак, што аднаўляе скуру. Яна стане гладкай і пяшчотнай. Пры гэтым бярозавы сок карысна разводзіць мёдам і смятанай.

– Калі рабіць маскі на твар, бярозавы сок абавязкова трэба разводзіць з нечым, у звычайных прымочках карысці мала, але і шкоды не будзе – каментуе доктаркасметолаг **Вераніка Лужынская**. – А што датычыцца сродкаў па доглядзе за валасамі, то бярозавы сок насамрэч зробіць вашы валасы паслухмянымі і блiскучымі. Калі вам хочацца як мага хутчэй адрасціць шыкоўную шэвелюру, пазбавіцца ад перхаці, бярозавы сок і ў гэтым прыйдзе на дапамогу. Дастаткова толькі кожны раз пасля мыцця валасоў апалосваць іх бярозавым сокам.

### Магазінны бярозавы сок не карысны і піць яго не варта?

З такім пытаннем мы звярнуліся да тэхнолага Маладзечанскага харчовага камбіната **Святланы Нагіх:**

– Сёлета нарыхтоўка соку яшчэ не пачалася, але, нягледзячы на тое, што бярозавы сок хутка псуецца, мы паспяваем яго закансерваваць, каб захаваць у ім як мага больш карысных рэчываў. Каб зрабіць смак непаўторным, мы дадаём да бярозавага соку яблычны, бруснічны, журавінавы. Робім сок з мятай, кменам, шыпшынай. Што датычыцца яго складу, то ў наш сок уваходзіць толькі цукар і лімонная кіслата. І бярозавы сок нязменна наталяе смагу. Хаця мы і не спецыялізуемся на дзіцячым харчаванні, але нашы сокі паспяхова замацаваліся ў меню дзіцячых садкоў і школ.

І яшчэ: народная мудрасць кажа, што калі з бярозы вясной цячэ шмат соку – гэта да дажджлівага лета. Хутка пабачым, ці так гэта.

**Наталля ТУР.**

### Інспекцыя паведамляе

Начальнік Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету **Андрэй Запаснік** патлумачыў, што, каб самастойна нарыхтаваць сок, неабходна паведаміць пра гэта ў лягсас, атрымаць дазвол.

Забароненая нарыхтоўка соку ў прыбярэжных палосах водных аб'ектаў, палосах адводу чыгуначных і аўтамабільных дарог, іншых транспартных камунікацый, на тэрыторыі населеных пунктаў, дэндралагічных паркаў, батанічных садоў, курортаў і арганізацый аховы здароўя, а таксама на ўчастках санітарнай аховы курортаў, на ахоўных месцах пражывання дзікіх жывёл і росту дзікарослых раслін, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, у зонах аховы матэрыяльных нерухомых гісторыка-культурных каштоўнасцяў, месцах масавага адпачынку насельніцтва.

У перыяд актыўнага руху соку дзяржінспектары будуць выбарачна абследаваць лясы і ўчасткі драўняна-хмызняковай расліннасці, якія не ўваходзяць у лясны фонд, дзе нарыхтоўка сокаў абмежаваная або забароненая, – на прадмет выяўлення парушэнняў тэхналогіі падсочкі.

Калі вы ўбачылі парушэнне, тэлефануйце ў дзяжурную службу па нумары:

**(8017) 390 00 00**.

| Курсы валют НБ РБ | 6.03 руб. | 13.03 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 790 | **9810** |
| Еўра | 13 440 | **13590** |
| Злоты | 3 214,58 | **3214.71** |
| Літ | 3 895,51 | **3936.12** |
| Расійскі рубель | 271,50 | **269** |
| Грыўня | 1 058,38 | **1054.84** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9790/9850 | **9810/9870** |
| Еўра | 13420/13530 | **13580/13700** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 5.03 | 12.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 107000 | **121900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45500 | **48900** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 23800 | **23800** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 80000 | **69000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 29000 | **28500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32000 | **28000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 89000 | **89000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9500 | **9500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13500 | **13500** |
| **Алей** | 14000 | **17000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7500 | **7700** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 10000 | **10000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 6500 | **7500** |
| **Капуста**, 1 кг | 6000 | **5800** |
| **Морква**, 1 кг | 6200 | **6500** |
| **Буракі**, 1 кг | 6000 | **6000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 22000 | **21000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13500 | **15000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 14000 | **18500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 18000 | **23500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 32000 | **28000** |
| **Перац**, 1 кг | 35000 | **39900** |
| **Вінаград**, 1 кг | 22000 | **19000** |
| **Бананы**, 1 кг | 14500 | **13800** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 9500 | **9500** |
| **Грушы**, 1 кг | 18500 | **19500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13500 | **13500** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 42000 | **42000** |
| **Бульба**, вядро 5 л | 20000 | **20000** |
| **Сала**, 1 кг | 55000 | **55000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |



З-за пераезду ў новы дом жыхар Мішанаў забыўся пра свой трактар, за што і паплаціўся.

КРЫМІНАЛ

# Сусед скарыстаўся лёгкай здабычай

**ВАЛОЖЫН. Жыхар вёскі Мішаны абакраў СВК "Пяршаі-2003" больш чым на 5,5 мільёна рублёў.**

Жыў-быў у вёсцы Мішаны, што непадалёк ад Пяршаяў, трактарыст, які сумленна працаваў у СВК "Пяршаі". Алкаголем ён не злоўжываў, на службе лічыўся добрым спецыялістам.

І па дамоўленасці з кіраўніцтвам сельгасвытворчага прадпрыемства ездзіў дамоў у родную вёску на трактары гаспадаркі ды пакідаў яго начаваць пад вокнамі.

І не было таго дня, каб б ён не майстраваў, не наладжваў, не аднаўляў абсталяванне свайго "жалезнага каня".

За два тыдні да здарэння трактарысту-выдатніку працы далі дом у іншай вёсцы. За пераездам і наваселлем не было калі паклапаціцца пра навясное абсталяванне, якое пакінуў у двары былога дома.

Сусед трактарыста, жыхар той жа вёскі, які нідзе не працаваў ды да таго ж злоўжываў спіртным, не прамінуў скарыстацца лёгкай здабычай. Падагнаў да падворка суседа свайго каня і пагрузіў усё навяснае абсталяванне да трактара на воз.

Крадзенае не доўга затрымалася ва ўласнасці нядобрасумленнага суседа, яму хутка ўдалося прадаць усё скупшчыкам металу.

– Сёння ўсё скрадзенае вернутае ва ўласнасць СВК "Пяршаі", а супраць жыхара вёскі Мішаны ўзбуджаная крымінальная справа, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" **Артур Махмудаў**, начальнік аддзела крымінальнага вышуку Валожынскага РАУС.

**Наталля ТУР.**

СЛУЖБА 101

# Выратаваць з пажару не паспела

**АШМЯНЫ. Пра тое, што ў Крэйванцах у доме аднаго з жыхароў здарыўся пажар, выратавальнікам стала вядома вечарам 5 сакавіка. Пажар заўважыла суседка, калі агонь ужо вырываўся на двор.**

Калі прыехалі пажарнікі, частка даху ўжо абрынулася.

У доме жыў 73-гадовы пенсіянер. Дзеці даўно выраслі і пакінулі бацькоўскі дом. Наведвалі бацьку не часта – дачка жыве ў другім раёне, сын – за мяжой. Дапамагаў мужчыну па гаспадарцы сацыяльны работнік, які прыходзіў два разы на тыдзень.

Загінулага гаспадара дома знайшлі на падлозе ў адным з пакояў.

Папярэдняя прычына пажару – парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання.

### Можа, хопіць глядзець на чужыя памылкі?

Мы жывём у век навуковых тэхналогій, інавацый і тэхнічнага прагрэсу. І сёння ўжо цяжка ўявіць, што раней для асвятлення жылля трэба было запаліць лучыну, а каб папіць чайку – "раскачагарыць" самавар. Усё гэта стала гісторыяй.

На змену прыйшлі зручныя і сучасныя электрапрыборы. Многія, устаўшы раніцай з ложка, звыкла націскаюць кнопку тэлевізара, электрачайніка і пачынаюць збірацца на працу. А праз некаторы час, выбягаючы з хаты і, як заўсёды, спазняючыся, пакідаюць усё, як ёсць.

І часам пакінутыя без нагляду ўключаныя электрапрыборы прыносяць непрыемныя сюрпрызы. Пазбегнуць гэтага можна. Бо выконваць нескладаныя правілы эксплуатацыі электраабсталявання значна лягчэй і танней, чым рамантаваць або адбудоўваць уласнае жыллё.

Усталюйце ў сваім доме пажарны апавяшчальнік і аўтаматычныя электразасцерагальнікі. Задумайцеся, можа, ужо надышоў час не проста бачыць чужыя памылкі, а рабіць высновы і прымаць меры?

**Паводле інфармацыі Гродзенскага абласнога ўпраўлення МНС.**

# Ад дачы засталіся дзве сцяны

**ВІЛЕЙКА. Каля дзвюх гадзін ночы 9 сакавіка выратавальнікам паступіла паведамленне пра пажар у вёсцы Скабэрэц Хаценчыцкага сельсавета.**

Адтуль патэлефанавалі, што гарыць дача па суседству.

Пажар заўважылі позна: жыхароў у вёсцы мала, да бліжэйшага жылога дома – метраў 300-400.

– Па прыбыцці да месца выкліку драўляны дом ужо ахапіла полымя, – паведаміў інспектар Дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзмітры Кляшняк**. – У выніку дача знішчаная, ад яе засталіся толькі дзве сцяны.

Са слоў суседзяў, што ў доме нікога не павінна быць, інфармацыя потым пацвердзілася.

Прычына пажару ўстанаўліваецца.

**Аддзел інфармацыі.**

СЛУЖБА 101

# Хлопец з бацькам выратавалі суседа

**СМАРГОНЬ. Аднак выцягнуць з агню яго брата не змаглі. Для гэтага жыхара вёскі Зарудзічы на Смаргоншчыне 8 сакавіка скончылася гібеллю.**

Пажар у вёсцы Зарудзічы здарыўся ў свята 8 Сакавіка каля 20 гадзін вечара. Выратавальнікаў выклікалі суседзі.

45-гадовы **Аляксандр Залескі** разам з 21-гадовым сынам **Дзянісам**, навучэнцам Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа, зайшлі ў дом, які ўжо ахапіў агонь, і выцягнулі аднаго з жыхароў. Зайсці ўнутр яшчэ раз, каб выратаваць яго брата, ужо не было магчымасці – драўляны аднапавярховы дом палаў.

Загінуламу было 40 гадоў. Яго 38-гадовага брата ў моцным алкагольным ап'яненні завезлі ў Смаргонскую ЦРБ.

Па словах суседзяў, гаспадары дома, дзе здарыўся пажар, часта выпівалі. У дзень здарэння іх таксама бачылі нецвярозымі.

Пра выпадак распавёў "Рэгіянальнай газеце" аператыўны дзяжурны Смаргонскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Астрынскі**.

**Настасся РОЎДА.**

КРАДЗЯЖЫ

# Рабавалі перад святам

**ВІЛЕЙКА. Непрыемны сюрпрыз чакаў віляйчанку напярэдадні жаночага свята.**

Каля дзесяці гадзін вечара 7 сакавіка яна вярталася дадому, зайшла ў пад'езд пяціпавярховага дома па вуліцы Гагарына. Следам за ёй зайшоў малады мужчына. У лесвічным пралёце ён спрабаваў выхапіць сумачку.

Жанчына стала супраціўляцца. Сумачка разарвалася, і ўсё з яе вывалілася. А мужчына збег без здабычы.

Яго асоба ўстаноўліваецца, паведаміў начальнік Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Мікалай Раманчук**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Укралі падсвінкаў

**ВІЛЕЙКА. Чатыры падсвінкі ўкралі з памяшкання фермерскай гаспадаркі "Чэмпіён". Адбылося гэта з вечара 3-га сакавіка па раніцу 4-га.**

Пранік злодзей на ферму, якая размешчаная ля вёскі Клыні. Для гэтага ён адараваў дошкі. Прапажу заўважылі рабочыя, якія прыйшлі раніцай.

Каштавалі падсвінкі больш за восем мільёнаў рублёў.

Узбуджаная крымінальная справа за крадзеж, паведаміў начальнік Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Мікалай Раманчук**.

**Аддзел інфармацыі.**

# Любоў да бульбы загубіла двух хлопцаў

**АШМЯНЫ. Які беларус не любіць бульбу?**

На днях цяга да яе згубіла двух вяскоўцаў з Ашмяншчыны. Аднаму з іх 21 год, а другому – 22. Браты пад покрывам ночы папоўнілі свае запасы бульбы са склепа суседа-пенсіянера.

Мужчына нічога не падазраваў і на момант крадзяжу спаў. А раніцай убачыў, што яго абакралі, і звярнуўся ў міліцыю.

Зладзейства раскрылі "па гарачых слядах" аператыўнікі крымінальнага вышуку мясцовага райаддзела міліцыі. Аказалася, што ў склеп маладзёны трапілі праз адтуліну па засыпанні бульбы.

Усяго на іх сумленні крадзеж 33 кілаграмаў бульбы. З'есці хоць бы частку яны не паспелі – усю бульбу канфіскавалі.

**Ігар БЕЛАЗЁРАЎ,**
**супрацоўнік прэс-службы УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

 



ПАЗАШКОЛЬНАЯ РАБОТА

# Адкуль паходзяць нашы прозвішчы

## Бумбуль, Воўк, Даўбешкін, Казлоў, Лось, Люля...

**СМАРГОНЬ. Вучаніца смаргонскай сярэдняй школы №2 Дар'я Ізотава паглыбілася ў гісторыю больш чым 300 імёнаў і прозвішчаў вучняў сваёй школы і ўтварыла слоўнік.**

Цэлы навучальны год Даша разам з настаўніцай беларускай мовы і літаратуры **Марынай Царык** рыліся ў слоўніках у пошуках тлумачэння прозвішчаў.

І недарма. Сёлета на конкурсе дзіцячых вучэбна-даследчых праектаў "Я родным краем ганаруся" гэтая праца ўзяла першае месца.

**На школьнай, а потым і на абласной навуковай канферэнцыі даследчая работа ўзяла дыплом 2 ступені.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Вучаніца смаргонскай СШ №2 Дар'я Ізотава (злева) разам з настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Марынай Царык даследавалі паходжанне імёнаў і прозвішчаў вучняў школы.**

"Першыя чалавечыя імёны – Адам і Ева, першыя вядомыя імёны з беларускай гісторыі – князь Рагвалод і яго дачка Рагнеда. З імёнаў пачынаецца гісторыя чалавецтва, гісторыя нашай дзяржавы, з ведання паходжання ўласнага імені павінна пачынацца гісторыя сталення кожнага чалавека", – гаворыцца ў працы.

Менавіта таму Даша і ўзялася за гэтую тэму і за гэта даследаванне:

– Спачатку спыталася ў бабулі і дзядулі, адкуль маё прозвішча. Потым ужо палезла ў тлумачальны слоўнік. А пасля і вырашыла заняцца гэтым глыбей. Па-першае, мы сабралі імёны і прозвішчы ўсіх вучняў нашай школы, іх аказалася 332. Потым пераклалі іх на беларускую мову. А пасля з дапамогай слоўнікаў і інтэрнэта мы ўжо шукалі значэнне кожнага прозвішча і імені і стварылі слоўнік.

Спадарыня Марына і Даша правялі ў школе даследаванне. Высвятлялі, ці ведаюць вучні паходжанне сваіх прозвішчаў. Аказалася, амаль ніхто не можа патлумачыць, адкуль яно пайшло.

Ужо калі слоўнік утварылі і ў кожнага была магчымасць даведацца пра гісторыю сваіх прозвішчаў, некаторыя нават абураліся іх значэннем.

– Ёсць прозвішчы, якія маюць некалькі тлумачэнняў, – кажа спадарыня Марына. – Можна абраць адно, а можна – другое. Калі сярод іх ёсць станоўчае, то вучні абавязкова выберуць для сябе гэты варыянт. Напрыклад, прозвішча Казёл. Адны лічаць, што ўтварылася яно ад назвы жывёлы. Іншыя, што яно азначае "не вельмі разумны".

Даша і спадарыня Марына не першыя пачалі займацца этымалогіяй прозвішчаў. Аднак калі ім давялося шукаць канкрэтныя значэнні асобна ўзятых, то значэнні знайсці аказалася не так і проста. Некаторыя так і засталіся неразгаданымі: Дэбесь, Керэль, Класен, Ісенгаліеў, Ралевіч, Мускі, Працута, Манчак, Нурчынскі, Рукойць і Сасункевіч.

Аднак усе іншыя прозвішчы можна знайсці ў слоўніку. Вось адно з іх.

### Воўк, Воўкаў

Прозвішчы гэтыя вельмі распаўсюджаныя на Беларусі. "Але як гэта, каб чалавека, не абражаючы, зваць Ваўком?" – пытаюцца многія. А вельмі проста. Некалі была такая завядзёнка: каб сын жыў доўга здаровым і моцным, трэба назваць яго ваўком, бо гэтыя звяры ў нас самыя дужыя і вынослівыя. Хадзіла паданне, што калі сын атрымлівае імя, у аснове якога слова воўк, ён застаецца беражоным. Ледзь не ва ўсіх народаў Еўропы ёсць нават імёны, што паходзяць ад гэтага слова. У балгар гэта Вылка, у сербаў – Вук, у немцаў – Вольф (ды яшчэ з удакладненнямі Рудольф – чырвоны воўк, Вольфганг – воўчы ход). Людзі ў пару язычніцтва знарок, каб ашукаць цёмныя сілы, у якія яны верылі, ахоўвалі сваіх дзяцей, даючы ім замест імя ці прозвішча назвы звяроў – Воўк, Леў, Заяц, Барсук, Выдра, Ліс.

**Настасся РОЎДА.**

**Шукайце значэнні іншых прозвішчаў на сайце Rh.by**

УЗНАГАРОДЫ

# Трох маладзечанак уганаравалі ордэнам Маці

**МАЛАДЗЕЧНА. Шостага сакавіка, напярэдадні Дня жанчын, у гісторыка-культурным музеі-запаведніку "Нясвіж" адбылася ўрачыстая цырымонія ўручэння ўзнагарод.**

– Ордэнамі Маці ўзнагародзілі 17 шматдзетных маці Мінскай вобласці. Трое з іх – з Маладзечаншчыны.

**Таццяна Арцішэўская** нарадзіла і выхавала семярых дзяцей, **Зоя Канановіч** – маці шасцярых дзяцей і **Марына Рындзевіч** – мама пяцярых дзяцей, – расказала "Рэгіянальнай газеце" **Марыя Саўчык**, загадчыца аддзялення пярвічнага прыёму, інфармацыі, аналізу і прагназавання Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

Упершыню ордэнам Маці ўзнагародзілі 14 кастрычніка 1996 года. Тады ўзнагароды атрымалі 124 беларускія жанчыны. Ад гэтай даты ў Беларусі пачынае адзначацца Дзень Маці.

Сёлета ўзнагародзілі 89 шматдзетных мам краіны.

**Наталля ТУР.**



Фота забяспечана Марыяй САЎЧЫК.

**На здымку Марына Рындзевіч, Зоя Канановіч, Таццяна Арцішэўская.**

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці ведаеце вы паходжанне свайго прозвішча?



**Юры Конік, інжынер:**

– Прозвішча ўкраінскае. На ідышы яно гучыць, як Зусман. Мае продкі былі Зусманамі, якія хаваліся ад расейцаў. Я знаходзіў у інтэрнэце людзей з прозвішчам Конік. Яны казалі, што іх прозвішча абазначае тых, хто майстраваў драўляныя цацкі-конікі. Але мяркую, што я ўсё ж з Зусманаў, што перакладаецца, як конік.



**Антон Апанасевіч, спецыяліст па продажах:**

– Кажу праўду: не ведаю. Я ніколі не цікавіўся, ну прозвішча і прозвішча. Якая розніца?



**Аляксандр Пешкур, пенсіянер:**

– Адкуль узялося маё прозвішча, я не ведаю. Затое я ведаю, адкуль паходзіць маё імя. Ад дзеда. Мяне назвалі ў гонар яго.



**Арцём Селівон, навучэнец:**

– Паходжаннем свайго прозвішча ніколі не цікавіўся, ды і бацькі не расказвалі. Хаця ў сацыяльных сетках я бачыў шмат сваіх аднафамільцаў: з Польшчы, Літвы, Расіі. Пад Маладзечнам ёсць вёска Селівонаўка, але, мяркую, да майго прозвішча яна дачынення не мае.



**Алена Руткоўская, настаўніца музыкі:**

– Над паходжаннем свайго прозвішча я ніколі не задумвалася, але яно мне вельмі падабаецца. Ідэальна было б сустрэць мужа з такім жа прозвішчам, каб не мяняць. Але, калі ў мужа будзе нават не такое прыгожае прозвішча, як маё, усё адно вазьму мужава.



**Тамара Яршэвіч, навучэнка:**

– Я не ведаю, як адказаць. Пра паходжанне і значэнне свайго прозвішча я не ведаю і не цікаўлюся гэтым. Нават калі замуж выходзіць буду, напэўна, мяняць яго не буду. Нашто лішнія праблемы з пераафармленнем дакументаў? А з тым, што я ва ўсіх спісах апошняя, я звыклася.



**Ірына Сяляўка, працуе на вытворчасці мэблі:**

– Бацька з Вілейскага раёна, там усе Сяляўкі. А што яно можа значыць? Можа, рыбка такая маленькая, сялявачка. А людзей з такім прозвішчам я сустракала шмат, нават па тэлебачанні бачыла.

**Падрыхтавалі Наталля ТУР, Зоя ХРУЦКАЯ.**



 

ЛІТАРАТУРА

# Сляды ад цэнзурнага сіта на Быкаве сцерлі

**МАЛАДЗЕЧНА. Гэтай вясной у беларускіх кнігарнях з'явіцца "адмытая" аповесць Васіля Быкава "Мёртвым не баліць". Адменены 200 правак, унесеныя савецкай цэнзурай.**




Фота nn.by.

**Вокладка кнігі, на якой змешчаны малюнак з нататніка самога Быкава. На старонках аповесці выкрасленыя раней цэнзурай элементы будуць пазначаныя шэрым колерам і значком з нажнічкамі.**

Перавыданнем аповесці займаўся даследчык творчасці пісьменніка **Сяргей Шапран**. Унікальны чарнавік, той самы першапачатковы аўтарскі варыянт, яму перадалі сыны Быкава. Гэтыя запісы яны знайшлі ў гарадзенскай кватэры, дзе некалі жыў пісьменнік.

Пра цярністы шлях аповесці да чытача, пра яе katаванні цэнзарамі "Рэгіянальная газета" размаўляла з маладзечанскім краязнаўцам пісьменнікам **Міхасём Казлоўскім**:

– Так ужо складваецца, што вартыя ўвагі творы прыходзяць да чытача тады, калі на месцы галоўнага рэдактара сядзіць не проста таленавіты чалавек, але чалавек канкрэтнай пазіцыі, грамадзянскай у тым ліку. Адстойваць такія творы вельмі складана і цяжка, асабліва, калі яны з'яўляюцца ў пэўны час і апярэджваюць гэты час. Дык вось Быкаву ў гэтым выпадку пашанцавала, бо тады пасаду галоўнага рэдактара ў часопісе "Маладосць" займаў **Пімен Панчанка**, вядомы паэт і смелы ў сваіх паводзінах чалавек.

**Аповесць пабачыла свет у часопісе "Маладосць" у №№7, 8 за 1965 год.**

Пазней аповесць надрукавалі ў Маскве ў часопісе "Новый мир" у №№1,2 за 1966 год. Галоўным рэдактарам быў тады **Аляксандр Твардоўскі**.

– І гэта рэдкі выпадак, калі аповесць Быкава выйшла спачатку ў Мінску, а пазней у Маскве. Дарэчы, па сутнасці, з таго часу свае аповесці Васіль Быкаў пачаў перакладаць сам на рускую мову, бо папярэднія пераклады яго не задавальнялі. Гэта ж тады з'явіўся ў беларускім літаратурным асяроддзі жарт, што некаторыя рускія літаратары, думаючы, што яны добра ведаюць беларускую мову, перакладалі літаральна так: у канюшыне стракаталі конікі, як "в конюшне ржали лошади".

А асобным выданнем аповесць пабачыла свет у пачатку 80-х гадоў у чатырохтомным зборы твораў пісьменніка ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", дзе дырэктарам быў **Міхал Дубянецкі**.

– Міхал Фёдаравіч быў чалавек разумны, прагрэсіўных поглядаў, – распавядае Міхась Казлоўскі. – Яму прыйшлося праявіць волю, прыняць сапраўдны бой, каб аповесць нарэшце выйшла ў выглядзе збораў твораў Быкава, бо гэтае пытанне вырашалася на ўзроўні ЦК КПСС.

### Асобнай кнігай аповесць выйшла на эміграцыі

Упершыню аповесць "Мёртвым не баліць" выйшла асобным выданнем не ў Беларусі, а на эміграцыі. І здарылася тое дзесьці ў канцы 60-х гадоў. Дакладна ўстанавіць дату выхаду немагчыма, бо на кнізе няма ніякіх выходных дадзеных, толькі на вокладцы – малюнак з падбітым нямецкім танкам і белым па чырвоным надпісам "Мёртвым не баліць".

Праўда, цяпер стала вядома, што яе выдаўцом быў беларускі эмігранцкі дзеяч **Мікола Пруські**. Гэта псеўданім, а сапраўднае прозвішча Мікола Сардэчанка, пляменнік Якуба Коласа па матчынай лініі.

Да таго ж, твор, па ўсім бачна, перакладаўся з рускай мовы, бо ў тэксце ёсць словы, якія ў той час не сустракаліся ў беларускай літаратурнай мове, ды і ў творчасці Васіля Быкава. Прыкладам "слухаўка", "шыкоўная", "унікнуць", іншыя.

### У чым соль тэксту

У аповесці галоўны герой – былы франтавік, малодшы лейтэнант Васілевіч – прыязджае ў гатэль. У часе размоў узнікае палеміка, і ён у адным з прысутных пазнае былога смершаўца, чалавека са спецорганаў, які ў аповесці адыграў не самую лепшую ролю ў лёсе некаторых салдат. Прозвішча яго – Сахно.



Архіў "РГ".

**Эксперт у беларускай літаратуры, краязнаўца, пісьменнік Міхась Казлоўскі распавядае пра цэнзуру ў творчасці Васіля Быкава і іншых беларускіх пісьменнікаў.**

– Безумоўна, для таго часу аповесць была вельмі смелая, – лічыць Міхась Казлоўскі. – Смелая не ў тым, што яна нешта ачарняла, як любілі гаварыць тагачасныя кіраўнікі. Аповесць проста паказала, што не ўсё ў жыцці так аднaзначна. Не ўсё чорнае з'яўляецца чорным, не ўсё белае з'яўляецца белым.

**"Кіраўнікам" ад літаратуры не вельмі хацелася, каб у тэксце былі такія неадназначныя характарыстыкі некаторых прадстаўнікоў тагачаснай савецкай арміі і спецорганаў.**

### "Уся наша літаратура скалечаная"

Фактычна ўсе творы Быкава выходзілі вельмі цяжка, з перашкодамі. Гэта датычыцца не толькі "Мёртвым не баліць", але і такім аповесцям, як "Праклятая вышыня", "Яго батальён" ды іншым.

– І ўвогуле, уся наша літаратура, як ніякая іншая, напэўна, з літаратур былога Саюза, была сцэнзураваная. І гэта залежала не толькі ад уласна цэнзараў, але і ад асабістых чалавечых якасцяў тых людзей, якія мелі дачыненне да выхаду гэтых твораў. Таму некаторыя кнігі прайшлі такія цэнзурныя скарачэнні, што нават цяжка гаварыць пра іх першапачатковы змест.

**У якасці прыкладу можна прывесці дзённік Барыса Сачанкі, які адшукала дачка пісьменніка. У ім празаік піша, якія рэдактарскія і цэнзарскія скарачэнні перацярпеў раман Аркадзя Чарнышэвіча "Засценак Малінаўка", страціўшы, па сутнасці, свой аўтарскі выгляд.**

– Уся наша літаратура скалечаная, зламаная, – кажа Міхась Казлоўскі. – Бо яна пісалася не заўсёды так, як жадалі самі аўтары. Асабліва гэта датычыцца 30-х, 40-х, 50-х гадоў. І ўвогуле, над усёй нашай літаратурай вісеў дамоклаў меч. Бясконцы дамоклаў меч Галоўліта, перастрахоўшчыкаў ад літаратуры, якія ўмешваліся ў тэксты нават геніяльных, не пабаюся гэтага слова, пісьменнікаў.

### Усё можна зрабіць, калі ёсць запатрабаванасць

На думку Міхася Казлоўскага, каб расставіць у нашай літаратуры ўсё на свае месцы, вызначыць сапраўдную вартасць твораў, трэба яшчэ раз прачытаць усё напісанае. Пры гэтым пастарацца даверыцца ўласнаму густу, інтуіцыі і душы.

– Бо трагедыя нашай літаратуры заключаецца ў тым, што яна непрачытаная. Я пастараўся б яшчэ раз перагледзець усе творы нашых пісьменнікаў і перавыдаць усё лепшае з іхняй спадчыны. Але разумею, што гэта пакуль што нерэальна, ды і не запатрабавана грамадствам. Усё можна зрабіць, калі ёсць запатрабаванасць. Некаторыя лічаць, што таго ці іншага пісьменніка нельга перавыдаць, бо яго творы не вытрымалі выпрабаванняў часу. Я ж лічу, што такое меркаванне памылковае.

Кожны сапраўдны пісьменнік заслугоўвае таго, каб яго творы пабачылі свет. Каб творчасць ацэньвалася не толькі прафесійнымі літаратарамі, а яшчэ і паспалітымі чытачамі. Бо яны таксама павінны вызначаць усё лепшае ў літаратуры.

Іншая справа, што гэта была б элітная літаратура, разлічаная на людзей з густам, з разуменнем, з талентам і, самае галоўнае, з памяццю. Таму што без памяці няма будучыні.

**Настасся РОЎДА.**

КУЛЬТУРА

## "Шансон ля мора" вызначыў пераможцаў

**ВІЛЕЙКА. У Палацы культуры 5 сакавіка прайшло музычнае шоу "Дзве зоркі" – "Шансон ля мора".**

У другім сезоне праекта ўдзельнічалі дзесяць дуэтаў. Спявалі работнікі культуры, медыцыны, "Буддэталяў", райгазу… Быў і цалкам міліцэйскі дуэт – **Ганна Царык** і **Андрэй Дударчык**.

Кожны дуэт выканаў па дзве песні, усе яны былі пра каханне.

– Мерапрыемства прайшло ярка і запамінальна, – расказала намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**. – Удзельнікі творча падышлі да выступлення: стварылі сцэнічны вобраз, стараліся, каб у кожным нумары была цікавая інсцэніроўка.

Вызначала лепшых журы на чале з выканаўцам шансону Сяргеем Славянскім. Уладальнікам Гран-пры стаў дуэт **Алесі Высоцкай** і **Дзмітрыя Рудыка**. Дарэчы, Дзмітрый – з Маладзечна, але не першы раз удзельнічае ў вілейскіх мерапрыемствах.

Дыплом першай ступені заваявалі **Наталля Блізнюк** і **Казімір Таўстыка**. Дыплом другой ступені – на рахунку **Алены Саўрук** і **Аляксандра Высоцкага**, трэцяй – у **Марыны Заяц** і **Аляксандра Дубаневіча**. Астатнія дуэты былі адзначаны ў розных намінацыях, і кожны ўдзельнік атрымаў прыз.

Апроч журы, за ўпадабаны дуэт маглі прагаласаваць таксама гледачы. Прыз сімпатый гледачоў атрымалі **Наталля Блізнюк** і **Казімір Таўстыка**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ТВОРЧАСЦЬ

## Адкрылі выставу вышыўкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Выстава "Адкрыццё святой прыгажосці" працуе ў зале мастацтваў Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча.**

Аўтар работ – маладзечанка **Раіса Брысюк**, якая раней працавала на фабрыцы мастацкіх вырабаў. Глядач зможа любавацца яе пейзажамі, кветкамі і абразамі. Работы зроблены вышыўкай і бісерам. Аўтар падрыхтавала таксама вышываны абрус, сурвэткі і ручнік.

Выстава працуе ад 6 сакавіка да 5 красавіка, паведаміла загадчыца аддзела абслугоўвання бібліятэкі **Таццяна Закрэўская**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Хто ідзе ва ўладу ў нашым рэгіёне

## 23 сакавіка адбудуцца выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў

**Раённыя выбарчыя камісіі ўжо зарэгістравалі кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў 27 склікання.**

**Іх дадзеныя размешчаныя на афіцыйных сайтах райвыканкамаў. Большасць выбарчых акруг альтэрнатыву не прапаноўваюць, але ў некаторых ёсць некалькі кандыдатаў.**

**Працяг тэмы, у тым ліку аналіз спіса кандыдатаў, чытайце ў наступным нумары "РГ".**

### МАЛАДЗЕЧНА. У Маладзечанскі раённы Савет дэпутатаў зарэгістравалі наступных кандыдатаў:

**Геляноўская выбарчая акруга №1. Аляксей Васільеў**, дырэктар ЗАТ "Амкадор-Унікаб". 52 гады, беспартыйны.

**Драздовіцкая выбарчая акруга №2. Мікалай Аскірка**, дырэктар філіяла "Маладзечанскі хлебазавод" ААТ "Барысаўхлебпрам". 56 год, беспартыйны.

**Здземелеўская выбарчая акруга №3. Юры Крывенькі**, дырэктар Мінскага абласнога драмтэатра. 40 год, беспартыйны.

**Музычная выбарчая акруга №4. Андрэй Чурсін**, дырэктар ТАА "Белхол". 43 гады, беспартыйны.

**Чыгуначная выбарчая акруга №5. Сяргей Рымашэўскі**, начальнік інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне. 48 год, беспартыйны.

**Віленская выбарчая акруга №6. Міхаіл Клокель**, дырэктар Маладзечанскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа. 50 год, беспартыйны.

**Політэхнічная выбарчая акруга №7. Барыс Лапко**, дырэктар прыватнага інавацыйнага ўнітарнага прадпрыемства "ЭнергаВінд". 51 год, беспартыйны.

**Елгаваўская выбарчая акруга №8. Святлана Шатроўская**, кіраўнік філіяла "Белаграпрамбанка". 51 год, беспартыйная.

**Касманаўцкая выбарчая акруга №9. Алена Сакалоўская**, дырэктар дзіцячага цэнтра культуры "Расток". 44 гады, беспартыйная.

**Хмяльніцкая выбарчая акруга №10. Роберт Зубайраў**, намеснік начальніка Мінскай абласной інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. 44 гады, беспартыйны.

**Паркавая выбарчая акруга №11. Людміла Каханоўская**, старшыня Маладзечанскай раённай арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі. 41 год, беспартыйная.

**Мастацкая выбарчая акруга №12. Наталля Глінская**, дырэктар Маладзечанскай спецыяльнай агульнаадукацыйнай школы-інтэрната №2 для дзяцей з парушэннямі зроку. 41 год, беспартыйная.

**Скарынаўская выбарчая акруга №13. Сяргей Фалько**, загадчык хірургічнага аддзялення паліклінікі №1 Маладзечанскай ЦРБ. 34 гады, беспартыйны.

**Мірная выбарчая акруга №14. Уладзімір Балкоўскі**, намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні. 43 гады, беспартыйны.

**Паліклінічная выбарчая акруга №15. Наталля Капцюг**, загадчыца паліклінікі №3 Маладзечанскай ЦРБ. 55 год, беспартыйная.

**Кірмашная выбарчая акруга №16. Валянціна Раманоўская**, дырэктар фабрыкі "Бярозка". 51 год, беспартыйная.

**Гарадоцкая выбарчая акруга №17. Аляксандр Лазоўскі**, галоўны рэдактар "Маладзечанскай газеты". 57 год, беспартыйны.

**Гарадоцкая выбарчая акруга №17. Яўген Каросцік**, станочнік дрэваапрацоўчых станкоў "Маладзечнамэблі". 26 год, беспартыйны.

**Крынічная выбарчая акруга №18. Міхаіл Прыбалавец**, дырэктар маладзечанскага раённага вытворчага ўпраўлення газавай гаспадаркі "Маладзечнаміжрайгаз". 50 год, беспартыйны.

**Фестывальная выбарчая акруга №19. Людміла Канановіч**, намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама. 47 год, беспартыйная.

**Велікасельская выбарчая акруга №20. Уладзімір Касянкоў**, старшыня Маладзечанскага раённага спажывецкага таварыства. 34 гады, беспартыйны.

**Купалаўская выбарчая акруга №21. Наталля Вяршыцкая**, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце маладзечанскай сярэдняй школы №1 імя Янкі Купалы. 45 год, беспартыйная.

**Станказаводская выбарчая акруга №22. Наталля Ліхтаровіч**, намеснік загадчыка стаматалагічнай паліклінікі па медыцынскай частцы Маладзечанскай ЦРБ. 41 год, беспартыйная.

**Стараместная выбарчая акруга №23. Уладзіслаў Чарноў**, начальнік Маладзечанскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. 44 гады, беспартыйны.

**Камсамольская выбарчая акруга №24. Аляксандр Адамовіч**, дырэктар унітарнага прадпрыемства па аказанні паслуг "Кур'ер". 47 год, беспартыйны.

**Коласаўская выбарчая акруга №25. Віктар Малайчук**, начальнік станцыі Маладзечна Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі. 54 гады, беспартыйны.

**Шаранговіцкая выбарчая акруга №26. Мікалай Наздрын-Платніцкі**, дырэктар маладзечанскага прадпрыемства "Камунальнік". 54 гады, беспартыйны.

**Гарадзілаўская выбарчая акруга №27. Анатоль Трыпуцька**, галоўны інжынер таварыства "Беразінскае". 45 год, беспартыйны.

**Хажоўская выбарчая акруга №28. Віктар Невяровіч**, старшыня Маладзечанскага раённага Савета дэпутатаў. 57 год, беспартыйны.

**Аксана Семеж**, загадчыца раённага вучэбна-метадычнага кабінета аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама. 36 год, беспартыйная.

**Палачанская выбарчая акруга №29. Генадзь Бажко**, першы намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама. 59 год, сябра Аграрнай партыі.

**Цюрлёўская выбарчая акруга №30. Алеся Лукоўская**, намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама. 31 год, беспартыйная.

**Лебедзеўская выбарчая акруга №31. Сяргей Кароль**, намеснік дырэктара па вытворчай рабоце філіяла аграфірмы "Лебедзева" "Мінскэнерга". 31 год, беспартыйны.

**Маркаўская выбарчая акруга №32. Сямён Кацуба**, дырэктар Маладзечанскай сортавыпрабавальнай станцыі. 48 год, беспартыйны.

**Мясоцкая выбарчая акруга №33. Вячаслаў Грынь**, начальнік аддзела Маладзечанскага гарраёаддзела па надзвычайных сітуацыях Мінскага абласнога ўпраўлення МНС Рэспублікі Беларусь. 35 год, беспартыйны.

**Красненская выбарчая акруга №34. Клаўдзія Манькоўская**, дырэктар Красненскай сярэдняй школы Маладзечанскага раёна. 52 гады, беспартыйная.

**Відзеўшчынская выбарчая акруга №35. Валянціна Кісель**, старшыня сельскага Савета дэпутатаў. 43 гады, беспартыйная.

**Граніцкая выбарчая акруга №36. Наталля Люцко**, загадчыца Чысцінскай участковай бальніцы Маладзечанскай ЦРБ. 43 гады, беспартыйная.

**Чысцінская выбарчая акруга №37. Сяргей Міхаленка**, дырэктар "Забудовы-Аўтатранс". 31 год, беспартыйны.

**Алёхнавіцкая выбарчая акруга №38. Ганна Фурс**, вядучы спецыяліст па кадрах ААТ "Дуброва-2013". 44 гады, беспартыйная.

**Радашкавіцкая выбарчая акруга №39. Ігар Дзятлоўскі**, дырэктар Радашкавіцкай агульнаадукацыйнай школы-інтэрната для дзяцей сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў. 47 год, беспартыйны.

**Вязынкаўская выбарчая акруга №40. Віктар Неказакоў**, старшыня Радашкавіцкага пасялковага Савета дэпутатаў. 52 гады, беспартыйны.

### ВІЛЕЙКА. У дэпутаты Вілейскага раённага Савета дэпутатаў 27 склікання зарэгістраваны наступныя кандыдаты:

**Лясная выбарчая акруга №1. Наталля Радзевіч**, старшыня Вілейскага раённага Савета дэпутатаў. 52 гады, беспартыйная.

**Першамайская выбарчая акруга №2. Аляксандр Яхімовіч**, начальнік Вілейскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях. 37 год, беспартыйны.

**Чапаеўская выбарчая акруга №3. Таццяна Захарыч**, дырэктар Вілейскага цэнтра эстэтычнага выхавання. 51 год, беспартыйная.

**Цэнтральная выбарчая акруга №4. Марыя Кузаўкіна**, рэдактар газеты "Шлях перамогі" і праграмы радыёвяшчання. 60 год, беспартыйная.

**Заводская выбарчая акруга №5. Ігар Кіцікаў**, дырэктар Вілейскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа. 45 год, беспартыйны.

**Моладзевая выбарчая акруга №6. Мікалай Іваненка**, намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце вілейскай гімназіі №2". 53 гады, беспартыйны.

**Вольга Клімовіч**. Галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама. 28 год, сябра КПБ.

**Гагарынская выбарчая акруга №7. Сяргей Грынцэвіч**, намеснік галоўнага доктара Вілейскай ЦРБ. 48 год, беспартыйны.

**Камароўская выбарчая акруга №8. Аляксандр Лук'янаў**, выканальнік абавязкаў галоўнага інжынера прадпрыемства "Зеніт-БелОМА". 27 год, беспартыйны.

**Талстоўская выбарчая акруга №9. Марына Смаленская**, начальнік аддзялення па грамадзянстве і міграцыі аддзела ўнутраных спраў Вілейскага райвыканкама. 42 гады, беспартыйная.

**Паўднёва-Заходняя выбарчая акруга №10. Анатоль Сяргей**, дырэктар філіяла "Вілейскі хлебазавод" "Барысаўхлебпрама". 57 год, беспартыйны.

**Горкаўская выбарчая акруга №11. Мікалай Гіро**, дырэктар вілейскай сярэдняй школы №3. 55 год, сябра КПБ.

**Верасноўская выбарчая акруга №12. Уладзімір Палубятка**, дырэктар Вілейскай спецыяльнай агульнаадукацыйнай школы-інтэрната для дзяцей з цяжкімі парушэннямі маўлення. 49 год, беспартыйны.

**Уладзімір Малярчук**, пенсіянер. 66 год, сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

**Савецкая выбарчая акруга №13. Марына Андрыеўская**, намеснік дырэктара Вілейскай ЖКГ. 50 год, беспартыйная.

**Лаўрыновіцкая выбарчая акруга №14. Андрэй Дударчык**, намеснік начальніка Вілейскага РАУС райвыканкама, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі. 43 гады, беспартыйны.

**Святлана Баравая**, галоўны бухгалтар гарадскога камунальнага ўнітарнага гандлёва-вытворчага прадпрыемства "Садружнасць". 51 год, беспартыйная.

**Чыркаўская выбарчая акруга №15. Аляксандр Сталыга**, дырэктар філіяла ДБУ-13 дарожна-будаўнічага трэста №5. 55 год, беспартыйны.

**Незалежная выбарчая акруга №16. Дзмітры Круглік**, дырэктар ЧУП "Чыркава". 42 гады, беспартыйны.

**Іосіф Маціюн**, пенсіянер. 63 гады, сябра Беларускай партыі левых "Справядлівы свет".

**Валынцоўская выбарчая акруга №17. Дзмітры Бобрык**, дырэктар "Белтаможвілія". 40 год, беспартыйны.

**Сонечная выбарчая акруга №18. Вольга Шырочына**, загадчыца аддзялення пярвічнага прыёму, інфармацыі, аналізу і прагназавання Вілейскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. 40 год, беспартыйная.

**Святлана Валынец**, старшыня Вілейскай раённай арганізацыі прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі. 41 год, беспартыйная.

**Стаханаўская выбарчая акруга №19. Андрэй Худалей**, ляснічы Прыгараднага лясніцтва Вілейскага доследнага лясгаса. 31 год, беспартыйны.

**Гідрабудаўнічая выбарчая акруга №20. Ігар Хальпукоў**, галоўны інжынер ПМК-88. 51 год, беспартыйны.

**Вязынская выбарчая акруга №21. Таіса Нарэйка**, фельчар Вязынскай амбулаторыі Вілейскай ЦРБ. 54 гады, беспартыйная.

**Іван Пуцэйка**, настаўнік фізікі Вязынскага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячы садок-сярэдняя школа. 50 год, сябра Камуністычнай партыі Беларусі.

**Даўгінаўская выбарчая акруга №22. Аляксандр Маліноўскі**, старшыня Даўгінаўскага сельскага Савета дэпутатаў, старшыня сельвыканкама. 54 гады, сябра Камуністычнай партыі Беларусі.

**Язненская выбарчая акруга №23. Эдуард Яцкевіч**, дырэктар філіяла "Бубны" "Мінгазу". 48 год, беспартыйны.

**Альбін Сяржант**, начальнік участка прадпрыемства "Даўгінава". 55 год, сябра Камуністычнай партыі Беларусі.

**Іжанская выбарчая акруга №24. Валянціна Навасёлак**, старшыня Іжанскага сельскага Савета дэпутатаў, старшыня сельвыканкама. 50 год, беспартыйная.

**Альковіцкая выбарчая акруга №25. Таццяна Цітуленка**, намеснік начальніка па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, начальнік аддзела занятасці Вілейскага райвыканкама. 49 год, беспартыйная.

**Ільянская выбарчая акруга №26. Святлана Несцяровіч**, дырэктар Ільянскага дзяржаўнага аграрнага каледжа. 58 год, беспартыйная.

**Партызанская выбарчая акруга №27. Ала Уласевіч**, настаўніца Залесскай школы. 43 гады, беспартыйная.

**Касцяневіцкая выбарчая акруга. Таццяна Лукошка**, прыёмшчыца заказаў Вілейскага раённага камбіната бытавога абслугоўвання. 52 гады, беспартыйная.

**Людвіноўская выбарчая акруга №28. Віктар Каляда**, дырэктар таварыства "Сцешыцы". 36 год, беспартыйны.

**Людвіноўская выбарчая акруга №29. Валеры Германенка**, пенсіянер. 64 гады, сябра Камуністычнай партыі Беларусі.

**Крывасельская выбарчая акруга №30. Таццяна Прышчэпава**, загадчыца-фельчар Крывасельскага фельчарска-акушэрскага пункта Вілейскай ЦРБ. 42 гады, беспартыйная.

**Алена Каўтун**, сацыяльны работнік Вілейскага тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва. 40 год, беспартыйная.

**Куранецкая выбарчая акруга №31. Ганна Кузьміч**, тэхнік-асемянатар таварыства "Алая зара". 55 год, беспартыйная.

**Любанская выбарчая акруга №32. Васіль Кісель**, дырэктар Любанскай сярэдняй школы Вілейскага раёна. 57 год, беспартыйны.

**Сяргей Гарачаў**, настаўнік выяўленчага мастацтва ў сельскім філіяле Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў аграгарадка Любань. 57 год, сябра Камуністычнай партыі Беларусі.

**Нарочская выбарчая акруга №33. Анатоль Бяганскі**, старшыня Нарочскага сельскага Савета дэпутатаў, старшыня сельвыканкама. 61 год, сябра Камуністычнай партыі Беларусі.

**Асіпавіцкая выбарчая акруга №34. Аляксандр Буцер**, дырэктар перасоўнай механізаванай калоны №186. 55 год, беспартыйны.

**Хаценчыцкая выбарчая акруга №35. Таццяна Косцік**, загадчыца-фельчар Лукавецкага фельчарска-акушэрскага пункта Вілейскай ЦРБ. 44 гады, беспартыйная.

### МЯДЗЕЛ. Кандыдыты ў дэпутаты Мядзельскага раённага савета дэпутатаў:

**Верасноўская выбарчая акруга №1. Таццяна Бірала**, дырэктар цэнтра банкаўскіх паслуг №619 у Мядзеле філіяла №601 ААБ "Беларусбанк". 39 год, беспартыйная.

**Першамайская выбарчая акруга №2. Алег Радкевіч**, ваенны камісар Мядзельскага ваеннага камісарыята. 42 гады, беспартыйны.

**Набярэжная выбарчая акруга №3. Андрэй Малько**, дырэктар спецыялізаванай дзіцячай юнацкай школы алімпійскага рэзерву Мядзельскага раёна. 44 гады, беспартыйны.

**Юбілейная выбарчая акруга №4. Анатоль Лявоннік**, начальнік Мядзельскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. 43 гады, беспартыйны.

**Школьная выбарчая акруга №5. Кацярына Роліч**, другі сакратар Мядзельскага раённага камітэта Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі. 26 год, беспартыйная.

**Інтэрнацыянальная выбарчая акруга №6. Аляксандр Хіхель**, загадчык падсобнай вытворчасці дачыннага ўнітарнага прадпрыемства "Перасоўная механізаваная калона №215". 51 год, беспартыйны.

**Камуністычная выбарчая акруга №7. Генадзь Русак**, галоўны доктар Мядзельскай цэнтральнай раённай бальніцы. 51 год, беспартыйны.

**Лук'янавіцкая выбарчая акруга №8. Мікалай Маркевіч**, дырэктар Мядзельскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. 48 год, беспартыйны.

**Баярская выбарчая акруга №9. Віктар Васілевіч**, дырэктар прадпрыемства "Мядзельскае аграпрамэнерга". 55 год, беспартыйны.

**Ніна Самко**, вядучы спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму Мядзельскага райвыканкама. 57 год, беспартыйная.

**Занарацкая выбарчая акруга №10. Уладзімір Зелянкевіч**, старшыня Занарацкага сельвыканкама. 52 гады, беспартыйны.

**Наталля Колбун**, кіраўнік спраў Сватказўскага сельвыканкама. 38 год, беспартыйная.

**Сырмежская выбарчая акруга №11. Пётр Каўрус**, дырэктар таварыства "Занарацкі". 48 год, беспартыйны.

**Свірская выбарчая акруга №12. Аксана Груздь**, старшыня Мядзельскага раённага спажывецкага таварыства. 37 год, беспартыйная.

**Засвірская выбарчая акруга №13. Алена Жыхар**, начальнік Мядзельскага раённага вузла паштовай сувязі. 39 год, беспартыйная.

**Зубранеўская выбарчая акруга №14. Ігар Барысавец**, начальнік аддзела па кінавідэаабслугоўванні насельніцтва Мядзельскага раёна прадпрыемства "Мінаблкінавідэапракат". 53 гады, беспартыйны.

**Ленінская выбарчая акруга №15. Аляксей Шапецька**, дырэктар Рэспубліканскага санаторна-курортнага прадпрыемства "Санаторый "Прыазёрны" Упраўлення спраў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. 37 год, беспартыйны.

**Кастрычніцкая выбарчая акруга №16. Наталля Васілевіч**, намеснік генеральнага дырэктара па ідэалагічнай рабоце Нацыянальнага парку "Нарачанскі" Упраўлення спраў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. 42 гады, беспартыйная.

**Лясная выбарчая акруга №17. Ганна Блажэвіч**, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Нарачанскай сярэдняй школы №1. 38 год, беспартыйная.

**Нарачанская выбарчая акруга №18. Руслан Жук**, кіраўнік спраў Нароцкага сельвыканкама. 33 гады, беспартыйны.

**Чараўкоўская выбарчая акруга №19. Святлана Маслоўская**, галоўны доктар Рэспубліканскага дзіцячага пульманалагічнага цэнтра медыцынскай рэабілітацыі. 53 гады, беспартыйная.

**Нароцкая выбарчая акруга №20. Дзмітры Стралец**, начальнік будаўніча-вытворчага ўпраўлення "Нарачпрафбуд". 47 год, беспартыйны.

**Леанід Яворскі**, начальнік землеўпарадкавальнай служ-



Фота Наталі ТУР.

Трэнер Алена Рыжанкова са сваімі выхаванцамі (злева направа): Захарам Арцямёнкам, Антонам Тарасевічам, Дзмітрыем Кізікам, Русланам Купрыянавым і Яўгенам Ажаравым.

● ФЕХТАВАННЕ

# Хочаце валодаць шпагай – ідзіце ў фехтаванне

**МАЛАДЗЕЧНА. У Нацыянальную зборную Беларусі па фехтаванні ўваходзяць дзевяць спартсменаў з Маладзечна. Адказ на пытанне, чаму так багатая талентамі Маладзечанская зямля, – у размове з трэнерам па фехтаванні Аленай Рыжанковай.**

Алена Мікалаеўна ў мінулым спартсменка-рапірыстка. Прыйшла ў фехтаванне ў 1970-х гадах, каб не расставацца са спортам ніколі.

– Я шмат год адпрацавала ў школе настаўніцай замежнай мовы, але пра фехтаванне не забывалася ніколі. І вось калі наш выдатны трэнер **Уладзімір Мядзведзеў** некалькі гадоў таму запрасіў мяне стаць выхавальніцай новых спартсменаў-фехтавальшчыкаў, я пагадзілася адразу. І кожны дзень на працу прыходжу з задавальненнем. Гэта такое непадавальнае адчуванне, калі на тваіх вачах нараджаюцца чэмпіёны.

**– А колькі чэмпіёнаў ужо выхавалі?**

– У 2013 годзе трох сваіх выхаванцаў, **Максіма Пінчука, Вячаслава Лук'янцава і Сяргея Лук'янца**, я перадала ў Мінскае абласное вучылішча Алімпійскага рэзерву. Гэта ўжо вялікая прыступка да чэмпіёнства. Дзевяць нашых выхаванцаў ужо ўваходзяць у Нацыянальную зборную краіны. Гэта **Вольга Кісялёва, Арцём Карабінскі, Паліна Каспяровіч, Сяргей Кісель, Елізавета Аджапарыдзе**. У рэзерв каманды ўваходзяць чатыры маладзечанскія спартсмены: **Яўген Рудкоўскі, Наталля Космач, Кірыл Кірпічоў, Давід Ганчароў.**

**– Сёння фехтаванне ў краіне на пад'ёме?**

– Ну як тут скажаш, ці на пад'ёме? У нас займаецца 78 юнакоў і дзяўчат. Выхоўваюць іх тры трэнеры: я, Уладзімір Мядзведзеў і **Анатоль Гушчын.** У нас ёсць дзве залы для занятак: у Лядовым палацы і на станказаводзе. Калісьці ў Маладзечне працавалі школы фехтавання на шаблях, рапірах і шпагах, цяпер засталіся толькі шаблі. У нас амаль няма касцюмаў і электракуртак.

**Фехтаванне – спорт вельмі дарагі. Касцюм фехтавальшчыка каштуе каля 400 еўра, адна шабля – каля 20 еўра.**

А яны ж, бывае, і ламаюцца.

**– Фехтаванне – гэта спорт хлопцаў ці дзяўчат?**

– Мы імкнёмся ўраўнаважваць колькасць дзяцей. Раней дзяўчат увогуле на шаблі і шпагі не бралі. Цяпер дзяўчаты ёсць амаль ва ўсіх відах спорту, фехтаванне не выключэнне.

На будучым тыдні ў Брэсце пачынаюцца нашы галоўныя спаборніцтвы, рэспубліканскі турнір "Алімпійскія надзеі". Я туды вязу шасцярых сваіх спартсменаў: чатырох хлопчыкаў і дзвюх дзяўчынак. І, вядома, спадзяюся, што камусьці пашчасціць там засвяціцца.

**– А групы для дарослых людзей, ахвотных займацца фехтаваннем, існуюць?**

– На жаль, не. У мяне шмат маіх знаёмых пытаюцца, калі ўжо можна будзе прыходзіць на заняткі па фехтаванні. Зразумела, фехтаванне – спорт вытанчаны, прыгожы, рамантычны. Каму ж не хочацца валодаць шпагай, як сапраўдны рыцар? І кожны раз я адмаўляю. У нас няма магчымасці праводзіць заняткі з дарослымі па адной і той жа прычыне: недахоп фінансавання. З дзецьмі мы займаемся бясплатна, а для дарослых трэба адкрываць платныя заняткі. Праблемы, праблемы...

## Самы лепшы ў свеце трэнер – наш!

У час, калі мы размаўляем з Аленай Рыжанковай, у зале праходзіць трэніроўка. Пяцёра хлопчыкаў у масках, пальчатках і куртках, змагаюцца адзін з адным у мініпаядынках.

**– А не цяжка ў такіх касцюмах рухацца?**

**Яўген Ажараў:** – Горача толькі, асабліва летам. Касцюм, што пад курткай, немагчыма прапароць нават нажом, ён вельмі шчыльны.

**– Але табе падабаецца займацца фехтаваннем?**

– Я займаюся ўжо трэці год. Сяброўка маёй бабулі расказала пра тое, што ёсць такі від спорту, я прыйшоў, мне спадабалася. Да таго ж у дзяцінстве я любіў глядзець кіно пра мушкецёраў (Жэню 13 год).

Задаю тое ж пытанне другому хлопчыку, **Дзмітрыю Кізіку:**

– Мне падабаецца зброя, таму я хаджу на фехтаванне. А яшчэ фехтаванне развівае розум і рэакцыю. Гэта ж трэба прадугледзець, як сябе паводзе твой сапернік.

Самым гутарлівым сярод хлопчыкаў аказаўся **Антон Тарасевіч**:

– Я так люблю фехтаванне, што гатовы прыходзіць па некалькі трэніровак запар, асабліва замест урокаў. Але Алена Мікалаеўна адпраўляе ў школу.

**Руслан Купрыянаў**, сціпла кажа:

– Фехтаванне – гэта ў нас сямейнае, мяне прывяла сястра, якая ўжо доўга займалася фехтаваннем. Спачатку прыходзіў з ёй, як назіральнік, а потым і сам стаў займацца, мне не было яшчэ і дзевяці год, а ў фехтаванне бяруць з дзесяці.

Прапаную ўсім у канцы сустрэчы зрабіць калектыўны здымак. **Захар Арцямёнак** пытаецца ў мяне:

– А вы на гарбату не застанецеся? Мы пасля кожнай трэніроўкі абавязкова п'ём гарбату, якую заварвае Алена Мікалаеўна. Гэта наш асаблівы рытуал.

Калі я развітваюся з гэтымі маленькімі рыцарамі і іх трэнерамі, Антон мне кажа:

– Вы толькі не пішыце, што ў нас не хапае касцюмаў ці чаго яшчэ. А то прачытае там якое начальства і скажа: "Ах, ім мала таго, што ў іх і так самы лепшы трэнер у свеце, ім яшчэ новыя касцюмы падавай!"



Наталля **ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru

● НАВІНЫ

## Турнір у Гервятах выйграла каманда з Ашмянаў

**АСТРАВЕЦ.** У суботу, 8 сакавіка, у вёсцы Гервяты Астравецкага раёна адбыўся традыцыйны турнір па міні-футболе. Прысвячаўся ён Дню жанчын. Турнір праходзіць ужо ў сёмы раз, і чацвёрты год гуляюць у ім ветэраны (гэта гульцы, якім за 35 год).

За перамогу змагаліся чатыры каманды: па адной з Астраўца, Мядзела і дзве з Ашмянаў. Гулялі яны па кругавой сістэме, расказаў загадчык фізкультурна-аздараўленчага цэнтра па месцы жыхарства **Вадзім Лебядзевіч**

У выніку тры каманды набралі па шэсць ачкоў, і месцы паміж імі размеркаваліся толькі па розніцы забітых і прапушчаных мячоў.

Перамагла каманда Ашмяны-1. На другім месцы – Ашмяны-2, а замкнулі тройку мядзяльчане.

### Пачаўся 12 тур

**МЯДЗЕЛ.** Гульні 12 тура чэмпіянату раёна па міні-футболе пачаліся 4 сакавіка.

Каманда Нарацкага савета выйграла ў супрацоўнікаў райаддзела на надзвычайных сітуацыях 2:1, прадстаўнікі аддзела адукацыі, спорту і турызму былі мацнейшымі за каманду райвыканкама 7:4.

У яшчэ адным матчы футбалісты прадпрыемства меліярацыйных сістэм і індывідуальныя прадпрымальнікі згулялі ўнічыю 2:2, паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Міхаіл Чаркасаў.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Клуб "Смаргонь" стаў другім на "Хрустальным Кубку Лідчыны"

**СМАРГОНЬ.** Ад 5 па 7 сакавіка футбольны клуб "Смаргонь" удзельнічаў у "Хрустальным Кубку Лідчыны-2014". Праводзіўся турнір у Лідзе.

Смаргонцы абыгралі дублюючы склад "Нёмана" 1:0 (гол забіў **Жданок**), паведамляе fc-smorgon.by. Потым перамаглі каманду са Слоніма 4:1 (два галы на рахунку **Мархеля**, па адным забілі Жданок і **Герасіменка**). А ў вырашальнай сустрэчы саступілі гаспадарам турніру 1:2 (зноў вызначыўся Мархель).

ФК "Смаргонь" заняў другое месца, а "Ліда" – першае.

## "Смаргонь" першы матч правядзе ў гасцях з "Гранітам"

**СМАРГОНЬ.** У сераду, 12 сакавіка, у сталічным Доме футбола адбылося лёсаванне чэмпіянату Рэспублікі Беларусь сярод каманд першай лігі 2014 года.

Першы тур адбудзецца 19 красавіка. "Смаргонь" першы матч правядзе ў гасцях супраць мікашэвіцкага "Граніту".

Гэтыя каманды мінулы сезон завяршылі па суседстве ў турнірнай табліцы. Футбольны клуб "Смаргонь" быў шостым, "Граніт" – сёмым.

**Аддзел інфармацыі.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Аўтобус на Вільню пойдзе з Маладзечна. Тым часам у Вілейцы маршрут на Вільню пакуль прадумваюць

На жаль, праспалі вілейскія дэпутаты 4 гады таму назад момант, калі складаліся спісы прыгранічных гарадоў аб бязвізавым абмене з Літвой. Ліда куды далей ад граніцы, але іх дэпутаты ініцыявалі свой горад у спісы. А ў Вілейцы хоць куды большая гістарычна-культурная сувязь з Вільняй, але як памёр Валянцін Рогач, дык няма каму займацца. Засталося спадзявацца, што калі-небудзь візы адменяць ці іх кошт зробяць значна таннейшы, і тады аўтобус будзе запатрабаваны хоць бы да Гудагая ці Ашмянаў. ***Tutojsh.***

### Пройдзе час – і вернецца "Радзіма"

Хто плаціць, той і музыку заказвае. У наш час усё можна купіць і прадаць, і "Радзіма" тут не выключэнне! ***Сціплы.***

Затое на "Дажынкі" ў Вілейцы пры рэканструкцыі гасцініцы зрабілі шыльду на роднай мове! Усё залежыць ад мясцовых архітэктараў. ***Goga.***

### Маладзечанка Людміла: "У дзіцяці лепшы сябар – перфаратар"

Ох, як нам гэта знаёма! У нас такое доўжылася 8 месяцаў. Потым пачалі яшчэ двое суседзяў жудасныя рамонты рабіць. Дайшло да тэмпературы і "хуткіх" у дзіцяці з-за нервовага знясілення. І ніхто нас нават аднаго разу не папярэдзіў, што будуць праводзіць шумную работу. Даводзілася дзіцяці даваць заспакаяльныя лекі, каб магло адносна спакойна спаць. А апошняе правядзенне рамонту ў выхадны дзень закончылася абвінавачваннямі, што я замінаю рабіць рамонт і парушаю супакой "добрага" суседа. Дайшло нават да суда.

Не дзіўна, што дзеці становяцца псіхічна неўраўнаважанымі. Мая дачка баіцца гуку, як дыван выбіваюць на вуліцы, плача і трасецца. А ад гуку перфаратара проста пачынаецца істэрыка. ***Таццяна.***

## ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

### Што галоўнае для жанчыны?

| % | Адказ |
|---|---|
| 41%: | Дабрабыт дзяцей |
| 27% | Каб побач быў надзейны мужчына |
| 10%: | Быць прыгожай |
| 7%: | Мець добрую адукацыю |
| 7%: | Спакойная работа |
| 7%: | Мець магчымасць дасягнуць галоўнай мэты |

Усяго галасоў 29

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | 7 | 3 | | | |
| 8 | | | | 1 | | 5 | | |
| | | 7 | 5 | | | 1 | 9 | |
| | 3 | | | | 9 | | | 6 |
| | 5 | | | | | | 1 | |
| 1 | | | 8 | | | | 3 | |
| | 8 | 5 | | | 1 | 9 | | |
| | | 9 | | 2 | | | | 1 |
| | | | 6 | 9 | | 2 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настассі РОЎДЫ.

Галоўнае — быць усім разам, тады і месца знойдзецца для кожнага!

## РЭПЕРТУАР



### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі "**Вій**", 3D (Расія, Украіна, Германія, Вялікабрытанія, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14 сакавіка – у 21:30
15 сакавіка – у 19:00
16 сакавіка – у 14:00
17 сакавіка – у 18:30
19 сакавіка – у 21:00
Кошт білета – 50 000 рублёў.

Фантастычная камедыя "**Лёгкі на паміне**" (Расія, 2014, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14 сакавіка – у 19:30
15 сакавіка – у 17:00
16 сакавіка – у 19:00
17 сакавіка – у 21:00
18-20 сакавіка – у 19:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Біяграфічная гісторыя "**Выратаваць містара Бэнкса**" (ЗША, Вялікабрытанія, Аўстралія, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14 сакавіка – у 14:30
15 сакавіка – у 12:00
19 сакавіка – у 16:30
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Эпічны экшн "**300 спартанцаў: Росквіт імперыі**", 3D (США, 2014, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
14 сакавіка – у 17:00
15 сакавіка – у 21:30
16, 18, 20 сакавіка – у 21:00
Кошт білета – 55 000 рублёў.

Анімацыйная камедыя "**Лега.Фільм**", 3D (Аўстралія, ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў).
16 сакавіка – у 12:00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Рухай ластамі 2**" (Бельгія, 2012, без узроставых абмежаванняў)
15, 16 сакавіка – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Меладрама, камедыя "**Добрыя ўчынкі**" (США, 2012, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
18, 19 сакавіка – у 19:30
20 сакавіка – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама "**Паганіні: Скрыпач Д'ябла**" (Германія, Італія, 2013, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
14 сакавіка – у 21:30
15 сакавіка – у 19:00, 21:30
16 сакавіка – у 19:00
17-19 сакавіка – у 21:30
20 сакавіка – у 19:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама, камедыя "**Усё, акрамя кахання**" (Аўстралія, 2012, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14 сакавіка – у 17:30, 19:30
15 сакавіка – у 17:00
16 сакавіка – у 17:00, 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
14 сакавіка – у 19:00

"**Камедыя**" (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча), *Уладзімір Рудаў*
18 сакавіка – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Карона з кахання**" (лірычная драма ў 2-х дзеях, прысвечаная жыццю і творчасці Янкі Купалы), *Анатоль Дзялендзік*
21 сакавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17**. E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Церамок**" (вясёлая казка), С.Маршак
16 сакавіка – у 12:00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

## ГАРАСКОП

### (14-20 САКАВІКА)

**Авен.** У вас з'явяцца новыя захапленні. Складайце планы на бліжэйшую і аддаленую будучыню, ёсць шанц таго, што ўсё збудзецца.

**Цялец.** Па ўсіх прыкметах, вы знаходзіцеся на парозе вялікіх перамен. Вы нават вырашыце кардынальна змяніць імідж.

**Блізняты.** Не абмяжоўвайце сябе ў наведванні розных свецкіх мерапрыемстваў: на іх вы зможаце займець цікавыя і карысныя знаёмствы, аднак не злоўжывайце, нават калі яны будуць здавацца максімальна выгаднымі. Хутчэй за ўсё, за паслугі запатрабуецца высокая плата.

**Рак.** Зоркі кажуць, што супраць вашага націску не ўстаіць ніводная крэпасць. Праўда, чым больш сур'ёзная мэта, тым даўжэй будзе доўжыцца яе асада.

**Леў.** Шукайце прычыны для ўсмешкі – і яны абавязкова знойдуцца. Памятайце, што самыя здаровыя і прыгожыя людзі тыя, якіх нічога не раздражняе.

**Дзева.** Калі ў вас ёсць сябры, з якімі вы па нейкіх прычынах пасварыліся і даўно не бачыліся, запрасіце іх да сябе ў госці.

**Шалі.** Ваша самаадчуванне будзе такім, якія эмоцыі вы будзеце адчуваць. Кіраваць настроем складана, але можна, калі памятаць, што ад гэтага залежыць ваша здароўе.

**Скарпіён.** Увасабляйце ў сваё жыццё нешта новае, не бойцеся спантаннасці і непрадказальнасці.

**Стралец.** Калі вы хочаце, каб вашы мары збываліся, часцей стварайце ў сваім уяўленні рэальныя карціны: свой дом, сваю кватэру, месца працы, адпачынак, карацей усё, што вам неабходна, і зоркі будуць дапамагаць вам.

**Казярог.** Складайце планы асцярожна, нікога ў іх не пасвячайце, пакуль не будзеце цалкам упэўненыя ў тым, што збіраецеся зрабіць.

**Вадалей.** Прыміце да ведама ўсе затрымкі ў справах, але не спяшайцеся прымаць рашэнні – сам жа лёс утрымлівае вас ад памылак і несвоечасовых дзеянняў.

**Рыбы.** Паклапаціцеся пра здароўе сваіх вачэй. Вы падвяргаеце іх павышаным нагрузкам, а трэба ўжо даць адпачынак. Менш сядзіце за тэлевізарам ці камп'ютарам, вечарам прыкладзіце да векаў "маску" з бульбы ці спітай заваркі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

